НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

## МІР АДСТАЯЛІ...

...З высачэзных таполяў каля Брэсцкага вакзала чуецца птушыны гоман. З такім жа «шчабятаннем» бягуць па вуліцы школьнікі. З вокнаў музычнага вучылішча пьюцца гукі скрыпкі. На першы погляд Брэст — горад, якіх на зямлі сотні. Але гэта не зусім так. Уважліва аглядзішся — і ўбачыш, што на старых дрэвах тут мноства адмецін-ран. У парку, ля брацкай магілы — цішыня. Быццам буйныя кроплі крыві, пунсавеюць ля манумента жывыя ружы.

На граніце золатам выбіты дзесяткі прозвішчаў. Непадалёку яшчэ адна брацкая магіла. І яшчэ адна. Не, не падобны Брэст на іншыя гарады. Людзей, якія прыйшлі ў музей крэпасці, і цяпер апаляюць полымем бою словы, высечаныя некалі штыком на камянях Брэста: «Паміраем, але не здаёмся!» Дзякуй вам, непахісным у той грозны ранак, калі раскалолася неба ад грукату і выцця бомб!..

Тут пачыналася наша Перамога.

НА ЗДЫМКАХ: легендарныя абаронцы Брэсцкай крэпасці былы камандзір стралковай роты Павел Ягоравіч СІВАКОЎ, былы камандзір узвода Аляксандр Іванавіч МАХНАЧ, былы радавы музыканцкага ўзвода Міхаіл Паўлавіч ГУРЭВІЧ; Вечны агонь; ля Холмскіх варот Брэсцкай крэпасці.

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

# «ВПЕРЕД, БРАТЦЫ!»

Во многих публикациях военного и послевоенного периода утверждалось, что мы, фронтовики, шли в бой с возгласами «За Родину, за Сталина!». Считаю: утверждение необоснованное. Лично я, например, за годы, проведенные на передовой, таких призывов не слыхал, хотя и воевал в составе стрелковых частей. Солдаты не проявляли готовности умирать за Сталина, они шли в бой, чтобы защищать Отчизну свою от порабощения. Били фашистов, чтобы самим выжить и народ свой спасти.

В составе 277-й стрелковой дивизии мне довелось участвовать в сражениях на Волге в качестве войскового разведчика. В 366-й отдельной разведроте, где я был секретарем комсомольской организации, находились представители четырнадцати национальностей. Вместе с волжанином, командиром роты старшим лейтенантом В. Морозовым, командирами взводов узбеком лейтенантом С. Рузиевым и сибиряком старшиной Е. Коробовым, красноармейцем Д. Норовым из Таджикистана и другими я, уроженец Чериковского района Могилевской области, проникал в тыл противника, чтобы захватить «языка». Нередко бывали случаи, когда наши разведчики вместе со стрелковыми подразделениями штурмовали вражеские укрепления. Запомнились бои за населенные пункты Песковатка, Дмитриевка, Карповка, за высоту 129.0.

Перед атакой, в которой участвовали и мы, разведчики, от земли было неимоверно тяжело оторваться, чтобы ринуться вперед, навстречу смертоносному огню противника. Имя матери родной забывали. В такое время нам было не до вождя. Отступать, задерживаться нельзя, потому что мы знали, что сзади находятся созданные Сталиным заградительные отряды — с автоматами, направленными нам в спину.

Еще одно было сталинское «нововведение» — выдавать солдатам водку перед наступательными боями. До сих пор считаю вредной эту затею. Подвыпивший человек теряет чувство реальности, бдительности, разумной инициативы. А это приводило к неоправданным потерям, а порой — и к срыву боевых операций. Многие солдаты и командиры понимали это и воздерживались от сталинских «ста граммов с прицепом».

...Высота 129.0 выгодно располагалась в оперативно-тактическом отношении на подступах к Сталинграду. Гитлеровцы придавали ей большое значение. Они понимали, что с потерей этой высоты и пролегавшего по ней рубежа обороны невозможно будет удержаться на занимаемых позициях. Противник создал там мощный оборонительный рубеж. На скатах — вкопанные в землю танки и самоходки, блиндажи и так называемые лисьи норы. Оборудовали отсечные позиции к траншеям, по которым подтягивали резервы из глубин обороны. Подступы к высоте густо заминировали. Обороняли этот важный рубеж отборные части и подразделения войск СС.

Перед наступлением состоялось открытое партийное собрание 854-го стрелкового полка, наносившего главный удар. Присутствовали на нем и разведчики. Командир полка подполковник Даниил Александрович Подобед, родом, как и я, из-под Могилева, поставил вопрос: кто возьмет на себя смелость водрузить знамя части на высоте? Поднялся коренастый боец, твердо и спокойно произнес: «Если разрешите, сделаю я». Это был один из лучших разведчиков, член партии с 1940 года Джуманазар Норов, в прошлом учитель таджикского.

Ранним утром вместе с бойцами полка в атаку двинулись и мы, разведчики, во главе со своим командиром старшим лейтенантом Василием Михайловичем Морозовым. Руководил боем командир дивизии полковник В. Чернов. За ходом операции наблюдали представитель Ставки Верховного Главнокомандующего генерал-полковник артиллерии Н. Воронов, командующий фронтом генерал К. Рокоссовский и командующий 21-й армией генерал И. Чистяков.

Шли в атаку без возгласов «За Сталина!». Не до того было. Слышались лишь проклятия в адрес фашистов. Солдаты и командиры были трезвыми. Старшины накануне получили термосы с водкой, но комдив приказал не выдавать спиртного.

Когда вплотную подошли к высоте, ожили многие огневые точки неприятеля. Смертельное ранение получил командир батальона старший лейтенант А. Гвоздев. Его тут же заменил командир роты, белорус по национальности, старший лейтенант В. Котов. Он и старший лейтенант И. Митроненко, командир соседнего батальона, трижды поднимали бойцов в атаку. Но гитлеровцы, подтягивавшие свежие силы, непрерывно усиливали огонь.

Для обеспечения атаки командир дивизии приказал подполковнику Д. Подобеду ввести в бой резервы. Из укрытий вырвались наши танки с автоматчиками на броне. Как только они поравнялись с наступающей пехотой, прозвучали призывные слова: «Вперед, братцы!».

В этот момент взметнулось знамя полка. Его нес разведчик Норов. Знаменосец не отставал от танков. Думал он в те минуты, конечно же, не о Сталине, а о том, чтобы полковое знамя было на виду у всех. Вот оно, пробитое пулями и осколками снарядов... Из блиндажа выскочил вражеский офицер, выстрелил из парабеллума. Норов качнулся и, прижимая к себе древко, повалился набок. До вершины высоты оставалось несколько метров. И Джуманазар пополз. Наши воины очищали от врага окопы и блиндажи. Высота 129.0 была взята.

Командир полка подполковник Д. Подобед и его заместитель по политчасти майор И. Смирнов поднялись на вершину и увидели Норова, сидевшего на окровавленном снегу. Над головой развевалось знамя. Теряющего сознание Джуманазара отправили в полевой госпиталь.

Командующий фронтом генерал К. Рокоссовский вручил ему затем орден Красного Знамени.

**Дмитрий ПИСЛЯКОВ,**
**полковник в отставке.**
г. Минск.

## ДЕНЬ СОЮЗА

### Как продавать сталь

Кировской районной прокуратурой Красноярска по материалам управления КГБ РСФСР по Красноярскому краю заведено уголовное дело на заместителя директора по внешнеэкономическим связям объединения «Сибтяжмаш», сообщает агентство «Сибинформ».

В июне 1990 года объединение заключило бартерную сделку с австрийской фирмой «Рудольф Кригер» на поставку 1200 тонн стальных слитков в обмен на товары народного потребления. По словам исполняющего обязанности прокурора Кировского района А. Фырсы, когда металл прибыл в один из портов СССР, Австрия неожиданно отказалась от его приема. Администрация «Сибтяжмаш» в Международный суд не обратилась, и предприятие получило крупные штрафы за хранение слитков в портовых складах. Через посредников выйдя на фирмы другой зарубежной страны, объединение продало металл по ценам, в несколько раз ниже мировых. В результате государству нанесен ущерб в размере 270 тысяч долларов.

### Кто купит малолетних преступников

Руководство находкинской свободной экономической зоны готово заплатить 3 миллиона рублей любому исправительному учреждению, которое перевезет к себе колонию для малолетних преступников, расположенную в порту «Восточный», сообщило агентство «Сибинформ».

Долгое время в порту существовала исправительная колония для взрослых, соседство с которой доставляло много неприятностей администрации порта и жителям близлежащего поселка Врангеля. Приняв решение о ее ликвидации, МВД России, однако, организовало здесь колонию для малолетних преступников.

**ИНФОНОВОСТИ.**

Письма парламенту и правительству

# КАК ВЫЕХАТЬ ЗА РУБЕЖ?

**«Как совершить поездку за рубеж?» —с таким вопросом наш корреспондент обратился к председателю Минского отделения Бюро международного молодежного туризма СССР «Спутник» Василию Алексеевичу Гарусу. Вот что он рассказал:**

— Развитие международного туризма — дело очень выгодное. Если мы хотим иметь валюту, надо, не откладывая, заняться им. К сожалению, у нас нет государственной политики в этой области, даже координатора. Сейчас наш «Спутник», Интурист и профсоюзный Совет по туризму «варятся каждый в своем соку».

Число желающих посетить нашу республику растет. Но что мы можем им предложить, если практически отсутствует индустрия сервиса? Куда зарубежному гостю пойти вечером, где истратить деньги? Негде. Вот и везет он их обратно.

Иностранных клиентов привлекает охота, рыбалка. Места у нас хорошие. Организовать такое занятие — дело не очень хитрое. Да некому. А выручка могла бы быть солидная. Наша организация обещает, что недостатка в клиентах не будет. Иностранцев привлекают так называемые фольклорные туры. Это когда в ходе поездки гости могли бы ознакомиться с народными песнями и танцами, промыслами. Почему бы не иметь в столице и других местах аналогичные центры?

А в каком запустении исторические памятники, подъезды к ним! Известно, что исторические места, музеи привлекают людей из других стран.

Выходцы из Белоруссии, которые в свое время покинули родные места, проявляют большой интерес к республике. Они высказывают пожелание приехать к нам на отдых с детьми и внуками, пожить в деревне, вдохнуть полной грудью этот воздух, глубже ощутить народный дух, традиции, узнать радости и заботы сельчан. А что мы можем им предложить? Ведь не предусмотрен у нас в деревнях подобный сервис.

И так далее, и так далее. Зарубежные гости говорят, что у нас буквально под ногами валяются доллары, а мы не хотим пошевелиться, чтобы их взять. Сказано образно и точно. Но до тех пор, пока наши исполнительные структуры не повернутся лицом к проблемам туризма, мы будем только ходить по валюте.

Есть и другие проблемы. Минский «Спутник» и Международный образовательный центр в Дортмунде решили открыть новую страницу в советско-германских отношениях. В день 50-летия нападения Германии на СССР намечено начать строительство международного образовательного центра в Белоруссии (в Минске, на проспекте Дзержинского). По этому случаю в столицу нашей республики прибыл поезд дружбы из Германии. К нам приехали 380 посланцев этой страны. Они проведут митинг в Хатыни и закладку первого камня в фундамент этого центра. Правительство Земли Северный Рейн-Вестфалия выделило на стройку 4 миллиона марок, Евангелическая церковь — миллион. Немцы взялись выполнить всю отделку и начинку здания, за нами — возведение «коробки».

Федеральный президент Германии Рихард фон Вайцзеккер подчеркнул, что он считает этот проект уникальным и выдающимся вкладом в развитие взаимопонимания между народами.

Центр станет местом общения народов разных стран, будет работать как совместное советско-германское предприятие, откроет дополнительные возможности для наших граждан познакомиться с зарубежными коллегами, совершить поездку к ним. Да вот беда — до сих пор ни одна строительная организация не берется за возведение центра. Целый ряд разных неувязок. Куда мы только ни обращались за помощью, даже к Президенту страны М. С. Горбачеву. А воз и ныне там. Хочу через газету еще раз обратиться в Совет Министров республики с просьбой, чтобы было оказано необходимое содействие важному проекту.

Мешают нашим соотечественникам побывать за рубежом и цены. Уж больно они «кусаются». И эффекта, которого от них ждут, они не дадут. Рассмотрим это хотя бы на таком примере. Нынче гостиницы подорожали для иностранцев более чем в сто раз. Если раньше мы платили по пять рублей за номер, в который селили зарубежного гостя, то нынче — 500 — 600 рублей. Ожидалось, что деньги рекой потекут к тем, кто установил такие цены. На деле же получается наоборот. Поскольку наш «Спутник» тратит во много раз больше на обслуживание зарубежного туриста, то, естественно, эти расходы перекладываются на нашего, который уезжает за рубеж. И вот, если в прошлом году путевка в Германию стоила 700 рублей, то нынче, чтобы нам свести концы с концами, цену на нее надо поднимать до шести тысяч. По карману ли это молодому человеку? Ясно, что желающих на такие поездки будет мало. А в ответ и мы не много будем принимать гостей из-за рубежа. Так что «деньги рекой» на счет гостиницы не потекут. Мне думается, помочь нашим путешественникам могли бы фонды защиты молодежи. Они теперь очень нужны. Если ранее часть путевок оплачивали профсоюзы, то нынче, исходя из сложного финансового положения, отказываются.

Еще одна преграда. Недавно группы в Польшу мы направляли по списку. Загранпаспорт требовался только руководителю. Теперь он нужен каждому туристу. А «корок» нет. Вот и снуют туда и обратно в основном те, у кого есть паспорта. А группы из колхозов, предприятий ждут, когда исчезнет «паспортный дефицит». Усложняют поездки и меры по защите потребительского рынка. Вроде бы нужные они, но когда поляки все волокли от нас, их не было. А вот сейчас, когда наши больше везут оттуда, появились. Как-то не логично.

В результате поездок, купли-продажи наши граждане обзаводятся некоторой суммой валюты. И спешат выехать, чтобы истратить ее за рубежом. А почему бы не предложить им нужные товары здесь? Доллары и марки оставались бы в республике.

Словом, пока правительство не займется туризмом, гражданину республики будет не просто побывать за рубежом, обогатиться духовно, а также приобрести нужные товары.

РЭЗАНАНС

# З'езды розныя бываюць...

## Адказ журналіста-«народніка» народнаму дэпутату А. Я. Кузмянкову

ШТО ні кажы, а ўсё-такі прыемна, калі «Народную газету» чытаюць нашы народныя выбраннікі. Не застаўся без увагі і артыкул «Сабралася ўся «галота» з падзагалоўкам: «Нядаўна ў Мінску адбыўся «з'езд беззямельных». Ці была ад яго карысць?» («НГ» за 4 чэрвеня).

Так старанна перапісваю і загаловак, і падзагаловак таму, што ўжо праз дзень народны дэпутат БССР А. Я. Кузмянкоў на бягучай зараз чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР зрабіў спробу крытычна прарэцэнзаваць вышэйпазначаны артыкул: не толькі ён яму не спадабаўся, але і тое, аб чым там апавядалася. Ды так горача і кранаюча выступіў народны выбраннік, што з сакратарыята нам нават накіравалі яго «предложения и замечания» з просьбаю «о результатах рассмотрения... сообщить народному депутату Кузменкову А. Е. и Верховному Совету БССР».

Сур'ёзныя, як бачыце, справы. І таму давядзецца адказваць. Але ж спачатку, мяркую, трэба яшчэ раз паслухаць нашага крытыка (я цытую па дасланаму нам тэксту).

**«КУЗМЯНКОЎ А. Я. (Полацкая сельская выбарчая акруга № 156, Віцебская вобласць).**

**Как вы помните, в «Народной газете» (позавчерашний номер) была опубликована статья «Сабралася ўся «галота». Во вчерашнем выступлении народный депутат Холод обращал внимание на эту статью. Я хочу спросить у автора этой статьи и всех, кто назвал это съездом. Что же это за съезд, если делегаты на этот съезд не избирались, никто их не регистрировал, не сообщалось о качественном составе и их правомочности?**

**Второе. Не знаю, как вы, но я бы не взял на себя ответственности отнести к «галоце беззямельнай» выступивших на съезде делегатов: Никитченко — члена-корреспондента ВАСХНИЛ, председателя президиума Западного отделения ВАСХНИЛ; Ермоленко — председателя Крестьянского союза республики, бывшего сотрудника Института экономики АПК; Лугина — председателя Белорусской крестьянской партии, подполковника в отставке; Антоненко — научного сотрудника Института экономических проблем АПК; Акулова — заведующего кафедрой философии Института иностранных языков. Давайте спросим: что же это за «галота крестьянская»?**

**Третье. В связи с этим спрашивается: имеют ли право эти «безземельные» выступать от имени всего крестьянства? Я предлагаю всем этим «безземельным» приехать в хозяйство, которым я руковожу, все они, я обещаю, будут обеспечены землей, в том числе и мой шеф академик Никитченко.**

**И последнее. Хотелось бы, чтобы «Народная газета» опубликовала список и остальных представителей «галоты беззямельнай». Тогда все и всем станет ясно».**

Шчыра кажучы, прачытаў я тэкст выступлення народнага выбранніка і доўга глядзеў у акно, не ведаючы, ці то плакаць, ці то смяяцца. Бо ў словах А. Я. Кузмянкова ёсць тэмы для ўсіх жанраў журналістыкі: і для фельетона, і для сатыры, і для вялікага праблемнага артыкула аб жывучасці асобных стэрэатыпаў у нашых уяўленнях. Словам, задаў мне задачку народны дэпутат. Але ж на «предложения и замечания» трэба неяк адказваць. То й буду, як ужо змагу.

Пачнём, відаць, з загалоўка. І тут я мушу паважанаму дэпутату Кузмянкову адразу сказаць, што хоць і невялікая, але розніца паміж газетай і калгаснай канторай усё-такі ёсць. Бо калі ў справаздачах гаспадаркі трэба штодзённа як агню, сцерагчыся таго, каб, крый Божа, не дапісаць «з галавы» ў зводку лішні воз сена ці тону-другую малака, то ў газеце наадварот: чым больш напусціць наш брат пісака вобразнага туману, паддасць гумару, падкіне іроніі... — то й лепш. Дый чытач наш чамусьці хоча бачыць на старонках газеты не вытрымкі з вядомай Вам «формы № 24» калгасна-саўгаснай справаздачы, а нешта іншае — каб можна было прачытаць да канца, седзячы дома за кубкам кавы.

Вось і я стараўся напісаць адпаведна аб «з'ездзе беззямельных», які праводзіла Беларуская сялянская партыя з мэтай нечым дапамагчы людзям, якім не ўдалося па розных прычынах прыдбаць кавалачак зямлі, нягледзячы на прынятыя беларускім парламентам добрыя заканадаўчыя акты. Тэма сур'ёзная, але ж ці трэба яе драматызаваць? Таму і было слова «галота» ў газеце ўзята ў двукоссе, каб кожны, нават не вельмі адукаваны чалавек мог зразумець, што гэта вобразны выраз. Па-другое, мне неяк нямёмка Вам, паважаны А. Я. Кузмянкоў, сельскаму жыхару, нагадваць словы гарэзлівай песні, якую здаўна спяваў мужык-беларус і адкуль узята назва артыкула:

**Сабралася ўся галота**
**Дый гарэлку п'е...**

І ў такім разе не Вам трэба абурацца, што абазвалі «галотаю» не тых, а арганізатарам з'езда, аб якім я расказваў. Але ж яны толькі ўсміхнуліся, бо гумар яшчэ, дзякуй Богу, трохі разумеюць.

А вось Вас, паважаны дэпутат Кузмянкоў, штосьці цягне на надта сур'ёзнае. «Кто назвал это съездом, если делегаты на этот съезд не избирались, никто их не регистрировал?..» — строга пытаецеся Вы ў аўтара.

Ну што Вам тут адказаць? Я, вядома, разумею, што слова «з'езд» у Вас выклікае асацыяцыю (уяўленне) пра той вэрхал, які падымаўся і амаль цэлы год стаяў над краінай пад час «форума» самай вялікай нашай партыі. А вось па мне дык слова «з'езд» ідзе ад слова «з'ехацца». І калі з'ехаліся людзі разам — то й з'езд. Усё ж лепей, чым нейкі той жа самы «форум» альбо «слет передовиков», на якіх мы ў Краіне Саветаў раней былі вялікія мастакі. Прыблізна так, відаць, думалі і арганізатары мерапрыемства, і таму праблем з назваю ў іх, як і ў мяне, не ўзнікала.

А вось на Ваша пытанне, чаму «...не сообщалось о качественном составе» дэлегатаў з'езда, я, прабачце, адказаць не магу. Па-першае, ніякіх дэлегатаў у звыклым сэнсе там не было — ніхто «от имени всего крестьянства» не выступаў, бо кожны, хто прыехаў, гаварыў галоўным чынам пра свае балячкі,

Па-другое, як Вы мне загадаеце вызначаць «качественный состав» прысутных? У мяне такога зоркага вока, як у паважаных народных выбраннікаў, няма. То як тут быць?

Што ж да Вашых, паважаны дэпутат Кузмянкоў, сумненняў і падазронасці наконт таго, што ў кіраўніцтве Беларускай сялянскай партыі сабраліся людзі, да зямлі не маючыя ніякага дачынення, то гэты «аргумент» апошнім часам добра-такі ўжо надакучыў і нічога, акрамя жалю да тых, што на яго абапіраецца, у мяне асабіста не выклікае. Бо дзе-дзе, а ўжо ў нашай рэспубліцы большасць гараджан — мужыцкія сыны і дочкі. А той самы, скажам, І. М. Нікітчанка ў сельскай гаспадарцы, мяркую, разбіраецца намнога лепей за іншых народных выбраннікаў.

Ды і ўвогуле, ці разумна зараз, паважаны таварыш Кузмянкоў, корпацца ў сацыяльным паходжанні знаёмых і незнаёмых Вам людзей? Бо калі не палянуецеся прыпомніць многіх з кіраўнічага «ядра» ідэалагічных натхніцеляў і арганізатараў партыі, да якой Вы, мяркую, належыце, то пабачыце, што пралетарыямі іх можна было назваць з вельмі вялікімі сумненнямі. Чаму ж у іх Вы па-ранейшаму верыце? І чаму сялянскія сыны так любяць партыю, дзе зусім іншы «гегемон»?.. І чаму...

Ды не, хопіць пытанняў. Хоць іх, паважаны дэпутат Кузмянкоў, Вы сваім выступленнем паставілі больш, мяркую, сабе, чым «Народнай газеце».

**Адзінае, за што магу Вас ухваліць, — дык гэта за словы: «...Я предлагаю всем «безземельным» приехать в хозяйство, которым я руковожу, все они, я обещаю, будут обеспечены землей...» Вось гэта добра па-мужчынску! То, з Вашага дазволу, мы й будзем даваць Ваш адрас, калі хто прышле ў рэдакцыю пісьмо аб жаданні стварыць сваю гаспадарку. Праўда, я штосьці сумняваюся наконт Вашага жадання шчыра дапамагчы. Але ж хай паспрабуюць, хто хоча.**

**А лепш, па-мойму, было б нікуды далёка не ехаць, а неяк атрымаць кавалак зямлі, каб карміцца пры сённяшніх цэнах трохі і самому там, дзе сэрца ўжо прыкіпела, — у родных мясцінах. От было б добра!**

**І ніхто разумны на калгассаўгас не замахваецца, бо ведаюць, што і гаспадаркам зараз цяжка. Але ж законы аб зямлі прыняты, трэба іх выконваць. А вось з гэтым «выконваць» у нас заўсёды не ўсё гладка. Таму і нешматлюдны «з'езд беззямельных» з гэтай нагоды адбыўся — хоць кропля, а ёсць у моры нявырашаных праблем. Менавіта таму і зацікавіў ён «Народную газету» як праява новых сацыяльна-эканамічных працэсаў у нашым жыцці. І вельмі шкада, што паважаны дэпутат Кузмянкоў так, скажам, своеасаблівa прачытаў вышэйназваны артыкул.**

Хоць, паўтаруся, вельмі прыемна, што «Народную газету» — орган Вярхоўнага Савета БССР — нашы народныя выбраннікі чытаюць уважліва. Так і трэба. Але ж яшчэ ўважлівей трэба чытаць ім праекты заканадаўчых актаў. Тады, можа, і не спатрэбяцца «з'езды беззямельных» пасля Кодэкса аб зямлі.

Адным словам, законы народным выбраннікам трэба тварыць так, каб яны і дзейнічаць пачыналі без вялікага скрыпу. А то ж зараз, калі што важнае на парадку дня, дык большасць дэпутатаў зацята маўчыць. А вось дойдзе да «рознага» — хоць ты браму перад трыбунаю стаў, мікрафон аж трымціць.

Хапае тут і нам, журналістам-«народнікам».

Але ж ці абавязкова, каб нешта такое сказаць, лезці на самую высокую ў рэспубліцы трыбуну? Прыходзьце ў рэдакцыю, пагутарым, паспрачаемся. Калі што незразумела — растлумачым, а за добрыя парады скажам «дзякуй».

Так што, паважаны народны дэпутат, з'езды розныя бываюць. Была б ад іх карысць — вось што галоўнае.

**Павел СТАСЕВІЧ,**
**аглядальнік «Народнай газеты» па аграрных пытаннях.**

# Открытое письмо

**группы народных депутатов местных Советов Речицкого района 4-й сессии Верховного Совета БССР.**

Мы, народные депутаты Гомельского областного, Речицкого районного, Заспенского, Артуковского, Вышемирского сельских Советов Речицкого района, внимательно следим за ходом 4-й сессии Верховного Совета БССР, призванной, по нашему мнению, найти путь к выходу нашей республики из переживаемого ею политического и экономического кризиса. Нас глубоко волнует то, что, на наш взгляд, представители оппозиции, вместо настойчивых поисков конструктивных решений заняты исключительно борьбой с КПСС. Судя по поведению их представителей в Минске на площади Ленина 7 ноября 1990 года, выступлениям на сессии народных депутатов от оппозиции, ради достижения этой цели, ради достижения власти они готовы пойти на все: попрание Конституции, советских законов и т. д., вплоть до раскола общества на группировки, противостоящие друг другу с оружием в руках.

Наше мнение, мнение наших избирателей состоит в том, что пора прекратить нагнетание ненужных страстей. Республика устала от дебатов и ждет от своих избранников конкретных и решительных мер по наведению порядка и защите Конституции. Мы решительно выступаем против так называемых деполитизации и департизации» а равно и национализации имущества КПБ, так как за этими действиями скрывается откровенная попытка переполитизации и перепартизации. Причем, делается это вопреки действующей Конституции БССР, вопреки общемировым и общечеловеческим традициям.

Мы решительно выступаем против подобных безответственных действий, способных в случае их принятия привести наше озлобленное, измученное хронической неустроенностью и дефицитами общество к еще большей конфронтации с непредсказуемыми последствиями.

Призываем всех народных депутатов республики, тех, кому действительно дорога судьба нашего многострадального Отечества, объединиться и призвать к порядку тех, кто, пользуясь трудностями, переживаемыми народом, стремится не к их преодолению, а к еще большему углублению, и на этой основе пытается пробиться к власти, чтобы навязать народу чуждые ему ценности.

**Н. КУЦКО,**
**А. РУДЕНКО,**
**Н. МАКАШЕНКО,**
**Л. КРОТОВА —**
**всего 40 подписей.**

